ГРОДНА
№3 (578),
6 лютага 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Жыла ў цені брата



wikipedia.org

*Практычна адзінай крыніцай звестак аб жыцці святой Схаластыкі служаць "Дыялогі" св. Рыгора Вялікага.*

на старонцы 2

## Малітва аб еднасці хрысціян у Гродне



grodnensis.by

*Дэвізам сёлетняга Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян сталі словы з Евангелля паводле св. Мацвея: "Мы бачылі зорку Ягоную на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму" (Мц 2, 2).*

на старонцы 4

## Шылавічы. Святыня, якая сягае нябёс



А. Вашкевіч

*Касцёл у Шылавічах – гэта не толькі шэдэўр архітэктуры пачатку XX стагоддзя, але і важны цэнтр духоўнага жыцця Гродзеншчыны.*

на старонцы 7

# "І ТОЛЬКІ СМЕРЦЬ РАЗЛУЧЫЦЬ НАС", АБО ПРА ВАЖНАСЦЬ ПЕРАДШЛЮБНАГА КУРСА




pixabay.com

*Сужэнская фармацыя – шлях, даўжынёй у жыццё*

**У дзень св. Валянціна, які з'яўляецца заступнікам нарачоных, наша вока цешаць радасныя парачкі, а слых – іх прызнанні ва ўзаемным каханні. Аднак ці ўсведамляюць маладыя людзі, што такое любоў? Ці здольныя захаваць настрой "валянцінак" цягам жыцця? І ці атрымліваецца ў Касцёла сёння перадаць спадчыну святога біскупа маладому пакаленню.**

на старонцы 3

# "МОЛАДЗЬ ШУКАЕ АДКАЗЫ І ЧАКАЕ ЯКАСНЫХ СУСТРЭЧ".

## ПРА НАШУ БУДУЧЫНЮ З НАСТАЯЦЕЛЕМ САЛЕЗІЯН У БЕЛАРУСІ



sdb.by

*Моладзь адзначае ўспамін св. Дамініка Савіо, выхаванца св. Яна Боска*

**Камунікацыю з моладдзю ніколі нельга было назваць лёгкай справай. Бацькі вучацца ёй па кнігах ці на ўласным горкім вопыце, настаўнікі – ва ўніверсітэтах. Аднак насамрэч гэтая навука не мае межаў: прыходзяць новыя пакаленні – і гэты дыялог патрабуе перагляду. Размаўляем з настаяцелем салезіян пра намаганне Касцёла слухаць моладзь, разумець і вучыцца размаўляць на "яе мове".**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Маладым людзям, якія жывуць у цяперашні час, няпроста з мужнасцю і надзеяй глядзець на сваю будучыню, марыць аб паспяховым шлюбным жыцці. Многія маладзёны баяцца шлюбу. Прычынай такога стану рэчаў з'яўляецца вялікая колькасць разводаў, разрываў адносін, вельмі часта ўжо ў першыя гады іх існавання.*

*Дакладна тое, што для заключэння сакраманту сужэнства трэба добра і належным чынам падрыхтавацца. Нельга прымаць паспешлівых рашэнняў, бо гэты сакрамант звязвае мужчыну і жанчыну на ўсё жыццё, а яго трываласць залежыць ад кожнага з іх.*

*Каб гэты новазбудаваны дом быў трывалым і моцным, сужэнцы павінны будаваць яго на трывалым падмурку і выконваць Божую волю.*

*Памолімся за тых, хто рыхтуецца да заключэння сакраманту сужэнства, а таксама за маладых сужэнцаў. Няхай яны пачынаюць супольнае жыццё разам з Хрыстом, каб Яму не прыйшлося стукацца ў іх дзверы, але каб Ён стаў лепшым Сябрам кожнай новай сям'і.*

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**8 лютага**

***Успамін св. Жазэфіны Бакіты, панны.***

*Жазэфіна Бакіта, якая нарадзілася ў 1869 годзе ў Судане, перажыла ў сваім жыцці больш пакут, чым сапраўднага шчасця. Аднак яе сведчанне пераканаўча паказвае, што Бог, а не чалавек з'яўляецца Панам кожнага стварэння. Жанчына правяла ў няволі 10 гадоў. Пэўны час была на службе ў маці і жонкі аднаго генерала. Там кожны дзень была бічавана, пасля чаго ў яе на ўсё жыццё засталіся 144 шрамы. Папа Францішак у 2015 годзе абвясціў яе літургічны ўспамін Міжнародным днём малітвы і разважанняў аб барацьбе з гандлем людзьмі.*

**11 лютага**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Лурда.***

*Марыя з'явілася беднай пастушцы Бернадэце Субіру ў 1858 годзе ў Лурдзе (Францыя), у Масабэльскім гроце, праз чатыры гады пасля таго, як папа Пій IX абвясціў догму аб Беззаганным зачацці. Падчас 18-ці аб'яўленняў Марыя заклікала да малітвы і пакаяння. Лурд стаў месцам, якое на ўвесь свет выпраменьвае дух любові, асабліва да хворых і бедных. Таму ў гэты дзень адзначаецца Сусветны дзень хворых.*

**14 лютага**

***Свята свсв. Кірыла і Мятода, заступнікаў Еўропы.***

*Кірыл і Мятод былі роднымі братамі. Паходзілі з Салонікаў (таксама званых Солун, адсюль назва Салунскія Браты). Мятод (імя пры хрышчэнні – Міхал) і Кірыл (Канстанцін) ведалі славянскую мову з дзяцінства, бо ў Солуне жыло шмат славян. Менавіта яны прынеслі веру славянам. Таму іх называюць Апосталамі славян. Яны ўнеслі вялікі ўклад у стварэнне хрысціянскіх каранёў Еўропы. Нягледзячы на цяжкасці, нястомна прапаведавалі Евангелле.*

**15 лютага**

***Успамін бл. Міхала Сапоцькі, прэзбітэра.***

*Кс. Міхал, жывучы ідэаламі святарскай святасці, праяўляў вялікі клопат аб фармацыі святароў. Як спаведнік і духоўны кіраўнік с. Фаўстыны Кавальскай стаў Апосталам Божай міласэрнасці, прыкладаючы намаганні для афіцыйнага зацвярджэння гэтага культу. З 2009 года ў гадавіну беатыфікацыі спаведніка св. Фаўстыны тысячы людзей збіраюцца на вуліцах гарадоў усяго свету, каб у 15.00 паміліцца Вяночкам да Божай міласэрнасці.*

# ЖЫЛА Ў ЦЕНІ БРАТА

працяг са с. 1

**У сярэдзіне V стагоддзя жыла ў Італіі сумленная шляхетная сям'я. Доўгі час сужэнцы не мелі дзяцей, але нарэшце Пан Бог блаславіў іх і ў сям'і нарадзілася двое дзяцей – блізняты, якія заклалі ў Касцёле падмурак манаскіх структур. Гэта былі святыя Бенедыкт і Схаластыка.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




*Св. Схаластыка на працягу ўсяго жыцця была духоўна звязана са сваім братам – св. Бенедыктам*

Мы мала ведаем пра жыццё св. Схаластыкі, бо яна жыла ў цені свайго брата – св. Бенедыкта, які ўвайшоў у гісторыю Хрыстовага Касцёла як заснавальнік і фундатар манаскага жыцця ў Заходняй Еўропе са знакамітай лацінскай максімай бенедыктынцаў: "Ora et labora" (Маліся і працуй).

Святыя Бенедыкт і Схаластыка нарадзіліся каля 480 года ў багатай хрысціянскай сям'і ў Нурсіі (Умбрыя, Італія). Жыццё Схаластыкі было адзначана своеасаблівым захапленнем і перайманнем учынкаў брата-блізнюка. Спачатку яна суправаджала яго ў падарожжах, наследуючы яго адданасці Богу. Калі Бенедыкт заснаваў першы кляштар у Субіяка, яго сястра заснавала жаночы ордэн, які грунтаваўся на той жа рэгуле. Да сённяшняга дня ў Пломбарыоле непадалёк Субіяка існуюць два манастыры: мужчынскі св. Бенедыкта і жаночы св. Схаластыкі. У гэтай мясцовасці таксама можна ўбачыць грот, дзе сустракаліся святыя.

**У месцы, дзе з'явіліся на свет Схаластыка і Бенедыкт, сёння знаходзіцца касцёл, у падвале якога можна паглядзець на частку іх роднага дома.**

Яны сустракаліся, каб падзяліцца сваімі заўвагамі адносна рэгулы і манаскага жыцця, а таксама паразмаўляць пра "справы неба і зямлі". І звычайна бывала так, што калі ўжо адбылася сустрэча, то дыялог паміж імі мог цягнуцца нават некалькі дзён. Яны не змянілі сваю звычку таксама пасля пераезду ў Касіна, дзе – па традыцыі – Схаластыка таксама заснавала жаночы манастыр побач з мужчынскім.

У паданнях пра жыццё Схаластыкі і Бенедыкта захавалася апісанне іх апошняй сустрэчы. Сястра, усведамляючы надыходзячую смерць, зацягнула сустрэчу з братам. Калі нарэшце наблізілася ноч і Бенедыкт сабраўся сыходзіць, яна папрасіла яго застацца яшчэ. Калі брат рашуча адмовіўся, Схаластыка папрасіла Бога паслаць лівень, які б перашкодзіў Бенедыкту вярнуцца ў кляштар. Калі была выслухана, яна сказала: "Я прасіла цябе, а ты адмовіўся мяне слухаць. Таму я звярнулася да Бога, і была пачута".

Святая памерла праз некалькі дзён, 10 лютага 547 года, у сваім манастыры ў Монтэ-Касіна. Як распавядае св. Рыгор Вялікі, які запісаў жыццярыс св. Бенедыкта, праз тры дні Бенедыкт убачыў яе душу ў бачанні ў выглядзе белай галубкі, якая ўздымалася ў неба. Ён паслаў за целам сваёй сястры і паклаў яго ў падрыхтаваную для сябе магілу. Сам Бенедыкт памёр 21 сакавіка таго ж года – яго пахавалі разам з сястрой.

**Да св. Схаластыкі звяртаюцца як да абаронцы ад навальніц, бур і ўраганаў.**

Схаластыка лічыцца духоўнай маці ўсіх жаночых бенедыктынскіх кляштараў і тых, якія выходзяць з бенедыктынскіх галін. Акрамя таго, яна з'яўляецца заступніцай гарадоў Ле-Ман і Субіяка.

Іканаграфія найчасцей паказвае святую з голубам, а рэлігійнае мастацтва перадае яе ў бенедыктынскім хабіце. Яе атрыбутамі з'яўляюцца крыж, кніга або посах абатысы.

Дык папросім св. Схаластыку, каб – як і яна – мы ўглядаліся ў добрыя прыклады і ўмелі іх наследаваць, пераймаць. Папросім, каб яна ахоўвала нас ад ураганаў і іншых стыхійных бедстваў, якія наносяць сур'ёзны ўрон. Няхай падтрымлівае нас сваёй малітвай, каб мы ў сваім жыцці пераймалі яе прастадушны, надзейны давер да Бога.

**Літургічны ўспамін св. Схаластыкі, панны, адзначаецца 10 лютага.**

# "І ТОЛЬКІ СМЕРЦЬ РАЗЛУЧЫЦЬ НАС", АБО ПРА ВАЖНАСЦЬ ПЕРАДШЛЮБНАГА КУРСА

працяг са с. 1

**Пра падрыхтоўку маладзёнаў да прыняцця сакраманту шлюбу паразмаўлялі з а. Сяргеем Трысценем OCD, дырэктарам і выкладчыкам "Школы сямейнага жыцця" ў Мінску.**

Размаўляла Ангеліна Марцішэўская



***– Калі гаворка ідзе пра абранне жыццёвага шляху, мы часта кажам пра Божы Провід. Як Вы лічыце, ці мае месца Божы Провід пры абранні сужэнца або сужонкі? Ці можна ў гэтай сітуацыі распазнаць голас Бога?***

– Мая канцэпцыя такая: чалавек мае адно пакліканне – да святасці. Да яе заклікае Бог. Усё іншае – гэта шляхі, якія асоба выкарыстоўвае, каб дасягнуць гэтай святасці. Існуе вялікая спакуса спіхнуць усю адказнасць на Госпада, сцвярджаючы, што ва ўсім ёсць Яго Провід. Мы маем вольную волю, і пра гэта трэба памятаць. Зразумела, Бог пасылае нам розных людзей, дапускае пэўныя сітуацыі. Аднак канчатковы выбар кожны робіць самастойна. І сам нясе адказнасць за наступствы.

***– Чым, на Вашую думку, з'яўляецца закаханасць? Калі ёй варта кіравацца?***

– Чуў такі выраз: "Калі двое людзей глядзяць адзін на аднаго – гэта закаханасць. Калі абодва глядзяць у адным напрамку – гэта каханне". Закаханасць не з'яўляецца каханнем. Гэта эмоцыя, якая можа быць першым крокам ва ўступленні ў адносіны. У сваю чаргу каханне – гэта стан, у якім чалавек кіруецца не толькі эмацыянальнасцю, але і розумам. Стан, у якім асоба ўсведамляе, што адбываецца, і нясе адказнасць за гэта.

Іншымі словамі, закаханасць – гэта адчуванне, кіруючыся якім, можна пабудаваць як благі, так і добры саюз.

***– Калі казаць пра сужэнскі курс, які праходзяць маладыя людзі пры парафіях, яго звычайна выкладаюць мясцовыя святары. Як лічыце, ці дастаткова адукацыі, якую атрымліваюць духоўныя асобы, каб падрыхтаваць хлопцаў і дзяўчат да сведамага прыняцця сакраманту?***

– На маю думку, пры парафіях нашага Касцёла сапраўды не хапае той фармацыі, якая можа годна падрыхтаваць маладых людзей да прыняцця сакраманту шлюбу. І сапраўды духавенства недастаткова кампетэнтнае ў гэтай справе. У семінарыях інфармацыя адносна жыцця ў сужэнстве падаецца павярхоўна. У сваю чаргу падчас курса самі духоўныя асобы могуць сведама абмінаць пэўныя пункты з-за сарамлівасці або невуцтва. Калі, напрыклад, распавядаць пра метады распазнання фертыльнасці або пра палавыя акты, то ёсць інфармацыя, якую можна падаць агульна, але ёсць і шмат момантаў, пра якія трэба казаць вельмі канкрэтна. А гэтага не адбываецца.

***– Якія яшчэ бачыце прабелы ў парафіяльнай сістэме сужэнскага курса?***

– Як я ўжо казаў, некампетэнтнасць выкладчыкаў курса. Аднак тут гаворка ідзе не толькі пра духавенства, але і пра свецкіх асоб. У беларускім Касцёле ёсць адмысловыя ўстановы, якія рыхтуюць спецыялістаў: "Школа сямейнага жыцця" ў Мінску, курсы сямейнага жыцця ў Гродне і Лідзе, курс для сямейных кансультантаў у Каталіцкім каледжы ў Баранавічах. Аднак, мне здаецца, туды звяртаецца недастатковая колькасць і духоўных, і свецкіх асоб.

Іншая праблема – гэта ўвогуле слабая рэлігійная і духоўная падрыхтоўка людзей у нашай краіне. Таму, калі маладзёны прыходзяць на сужэнскі курс, яны, хутчэй за ўсё, проста слухаюць тэмы катэхезы: пра запаведзі, пра споведзь і г. д. Бо ўявіце: большасць хлопцаў і дзяўчат заканчваюць сваю рэлігійную фармацыю пасля сакраманту канфірмацыі, у 13-14 гадоў. Сярэдні ўзрост тых, хто прымае сакрамант шлюбу – 25. За дзесятак гадоў з'яўляецца іншае разуменне Бога, іншае разуменне граху. І падчас дашлюбнай падрыхтоўкі выкладчыкі вымушаны канцэнтраваць увагу на тым, што маладзёны ўжо некалі чулі. Але распавесці гэта іншымі словамі.

Частка кандыдатаў – праваслаўныя, якія пераходзяць на каталіцызм, альбо асобы, якія зусім не маюць рэлігійнай фармацыі. У такім выпадку сужэнскі курс пераўтвараецца ў падрыхтоўку да жыцця ў супольнасці Касцёла. Дзеля гэтага трэба рабіць асобныя заняткі, але, на жаль, часта ў маладзёнаў на гэта няма часу.

Вось так і атрымліваецца: нібы сужэнскі курс, а самае галоўнае ўпускаецца.

***– З якой базай павінны выходзіць маладзёны пасля сужэнскага курса?***

– Тут не трэба прыдумляць веласіпед. У нас пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ёсць Рада па справах сям'і. І яна выдала адпаведны дакумент – "Душпастырства сям'і. Рэкамендацыі". Пасля распрацавала цыкл катэхез для нарачоных для ўсіх парафій Касцёла нашай краіны. Іх можна знайсці ў кнізе "Пакліканыя да любові" – усяго 10 тэм. Гэты матэрыял дазваляе маладым людзям, якія плануюць заключыць сужэнскі саюз, атрымаць неабходныя веды пра хрысціянскую сям'ю і падрыхтавацца да сакраманту. На жаль, святары рэдка карыстаюцца гэтым падручнікам, канцэнтруючы ўвагу на багаслоўскіх тэмах. Узгаданы падручнік ахоплівае вельмі шырокую тэматыку, між іншым: этапы развіцця любові, тэалогію сужэнства і сям'і, годнасць чалавечай асобы, адказнае бацькоўства, а таксама пагрозы для сужэнства, сям'і і выхавання.

***– Значная частка нарачоных, што праходзяць дашлюбны курс, не кіравалася і не збіраецца кіравацца пастулатамі Касцёла адносна сексуальнасці. Калі разважаць, прыняўшы гэтае сцверджанне, якую карысць яны ўсё роўна могуць вынесці са згаданай тэмы?***

– Кожны хрысціянін ведае Божыя запаведзі, але гэта не засцерагае яго ад іх парушэння. Пазнанне норм каталіцкай маральнасці і сексуальнасці дапамагае правільна фарміраваць сваё сумленне. Праз адкрыванне праўды мы працягваем працаваць над сумленнем. І нават калі чалавек не мае жадання або волі, каб прытрымлівацца пэўных прынцыпаў, то, спасцігаючы іх, бярэ на сябе свядомую адказнасць за свае паводзіны.

***– Што выклікае найбольшую цікавасць у маладзёнаў падчас сапраўды тэматычнага сужэнскага курса?***

– З майго досведу камунікавання з выкладчыкамі, якія праводзяць курс, маладых людзей цікавіць усё. Яны "робяць вялікія вочы", калі чуюць і пра зло, і пра кантрацэпцыю, і пра натуральныя метады распазнання плоднасці. Нават студэнты медыкі часта ніколі не чулі пра натуральны метад планавання сям'і. Ён дапамагае не толькі планаваць цяжарнасць, але і сачыць за здароўем жанчыны. Карысны з усіх пунктаў гледжання! Цікавыя таксама цяжкасці, з якімі можна сутыкнуцца ў сужэнстве. Асабліва калі выкладчыкі дзеляцца прыкладамі з уласнага сямейнага жыцця – катэхезы-сведчанні.

***– Згодна з данымі суда Гродзенскай дыяцэзіі, на цяперашні момант прынята да разгледжання 61 справа аб прызнанні шлюбу несапраўдным. У сваю чаргу пададзеных заяў у пару разоў больш. Чаму прысяга перад Госпадам не стрымлівае людзей ад таго, каб разысціся?***

– Прыняцце сакраманту шлюбу яшчэ не з'яўляецца гарантыяй добрага сужэнства. Людзі будуюць сем'і – кожны са сваім жыццёвым досведам. Часам завязваюць сужэнскія адносіны, не пазнаўшы добра адзін аднаго. Да таго ж хрысціянства не робіць нас бязгрэшнымі. Мы ўсё роўна застаёмся са сваімі слабасцямі. І часта менавіта грэх з'яўляецца прычынай распаду сям'і. Праца над сабой і над сужэнствам не заканчваецца з момантам прыняцця сакраманту. Яна павінна працягвацца ўсё жыццё, а яе падмуркам павінен быць Бог.

***– Як можна надалей адукаваць сябе ў сферы сужэнскай сталасці?***

– У Касцёле ў Беларусі ёсць дастаткова спосабаў і магчымасцей, каб фарміраваць сябе ў сужэнскім жыцці. Асаблівая фармацыя даецца праз сакраманты. Затым – праз супольную малітву, супольны ўдзел у св. Імшы, чытанне разам Святога Пісання.

Існуюць таксама адмысловыя супольнасці, такія як, напрыклад, "Сужэнскі дыялог" або рух "Equipes Notre-Dam", дзе муж і жонка могуць сталець побач або па прыкладзе іншых сем'яў. Ёсць рэкалекцыі, сімпозіумы, курсы, якія прапануе Рада па справах сям'і і дыяцэзіяльныя душпастырствы. Звычайна ўсе прапановы можна знайсці на партале Catholic.by і ў сацыяльных сетках.

І ў супольнасцях, і ў розных з'ездах можна ўдзельнічаць не толькі парай, але і паасобку. Бо, зразумела, навука размічана, між іншым, на тых, хто мае праблемы ў сужэнстве.

Акрамя таго, каталіцкія выдавецтвы прапануюць неабходную літаратуру на гэтую тэматыку.

***– Якое маеце бачанне сістэмы сужэнскіх курсаў Касцёла ў Беларусі, каб яна прыносіла больш плён?***

– Па-першае, неабходна, каб выкладчыкі пры парафіях прытрымліваліся тых рэкамендацый, якія дае Рада па справах сям'і, прытрымліваліся тэматыкі прапанаваных ёю катэхез. Па-другое, каб мелі больш сур'ёзны падыход да маладых людзей. Прычым гэты пункт важны і ў адваротным напрамку, бо часта здараецца сітуацыя, калі нарачоныя прыходзяць да святара і ставяць перад фактам, што ў іх праз 2 тыдні шлюб. Гэтага часу на падрыхтоўку надта мала, хадзіць штодня яны таксама не маюць магчымасці, у выніку робяць ласку, падпісваючы пратакол. Таму вельмі важная адкрытасць нарачоных на фармацыю, іх свядомае стаўленне да сужэнства.

Ведаю, што на дадзены момант існуе сэнсоўная падрыхтоўка да сужэнства ў большасці парафій Мінска. Калі пры сваёй парафіі няма такіх курсаў, то пры жаданні і з ведама пробашча можна прайсці іх у іншым месцы і там атрымаць пасведчанне, а пасля ваш пробашч аформіць усе неабходныя для прыняцця сакраманту шлюбу дакументы.

***– Што з'яўляецца залогам шчаслівага сужэнства?***

– Бог дае чалавеку ў рукі ўсе прылады для шчасця. І тое, што мы з імі зробім, і будзе залогам дабрабыту. Ісці шляхам, які вядзе да святасці – і ёсць сапраўднае шчасце.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Пантыфік абвясціў св. Ірэнэя Доктарам Касцёла

Папа падпісаў дэкрэт аб абвяшчэнні св. Ірэнэя Ліёнскага доктарам Касцёла. Мяркуецца, што ён нарадзіўся ў Малой Азіі паміж 130 і 140 гадамі, а памёр у французскім Ліёне ў 202 годзе.

"Святы Ірэнэй Ліёнскі, які прыехаў з Усходу, выконваў сваё біскупскае служэнне на Захадзе: быў духоўным і тэалагічным мостам паміж усходнімі і заходнімі хрысціянамі. Яго імя – Ірэнэй – выражае той мір, які паходзіць ад Пана і які прымірае праз інтэграцыю ў адзінства. Па гэтых прычынах, атрымаўшы заключэнне Кангрэгацыі па справах кананізацыі, маёй Апостальскай уладай абвяшчаю яго доктарам Касцёла з тытулам «Doctor unitatis»", – гаворыцца ў дэкрэце Пантыфіка.

### Новы пасол ЗША пры Апостальскай Сталіцы

Былы сенатар-дэмакрат Джо Донэлі будзе новым паслом ЗША пры Святым Пасадзе. Прэзідэнт Джо Байдэн прызначыў яго ў кастрычніку мінулага года, а 20 студзеня 2022 года рашэнне зацвердзіў Сенат.

67-гадовы амерыканскі палітык і адвакат Джо Донэлі з 2013 па 2019 год быў сенатарам ад штата Індыяна. У 2018 годзе прайграў выбары рэспубліканцу Майку Браўну.

У маладосці вучыўся ў прэстыжным каталіцкім Універсітэце Нотр-Дам у Саўт-Бендзе, дзе пазней выкладаў, працуючы адначасова ў юрыдычнай кампаніі ў Вашынгтоне. Як заўважае Каталіцкае інфармацыйнае агенцтва (KAI), ён з'яўляецца праціўнікам абортаў. Прэзідэнт Універсітэта Нотр-Дам кс. Джон Джэнкінс назваў Донэлі "чалавекам глыбокай каталіцкай веры і актыўнай дзейнасці ў публічнай сферы".

### Велікапосныя рэкалекцыі для Рымскай курыі зноў адменены

"З прычыны пандэміі каранавіруса таксама і сёлета велікапосныя рэкалекцыі для Папы і супрацоўнікаў Рымскай курыі не пройдуць у звычайным фармаце", – паведаміла Зала друку Святога Пасаду.

Падчас пантыфікату Францішка духоўныя практыкаванні звычайна адбываліся ў Арычы, недалёка ад Рыма.

Святы Айцец запрасіў кардыналаў, якія пражываюць у Рыме, кіраўнікоў дыкастэрый і кіраўнічы персанал Рымскай курыі да правядзення асабістых духоўных практыкаванняў, прысвячаючы час на малітву і разважанні, з нядзелі 6 па пятніцу 11 сакавіка 2022 года.

У гэтыя дні не будзе публічных мерапрыемстваў з удзелам Папы, у тым ліку агульнай аўдыенцыі ў сераду 9 сакавіка.

### Малітоўныя інтэнцыі на люты

**паўсюдная**

Молімся ў інтэнцыі манахінь і іншых кансэкраваных жанчын – дзякуючы за іх місію і мужнасць, – каб надалей адкрывалі новыя адказы перад абліччам выклікаў нашых часоў.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў новых членаў Жывога Ружанца ў нашай дыяцэзіі, а таксама развіццё гэтай справы.




# МАЛІТВА АБ ЕДНАСЦІ ХРЫСЦІЯН У ГРОДНЕ

працяг са с. 1

**У межах Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне адбылося экуменічнае набажэнства з удзелам прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесій горада над Нёманам.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

У малітве, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, удзельнічалі прадстаўнікі Рыма-Каталіцкага Касцёла, Грэка-Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў, Евангелічна-лютэранскай супольнасці, Царквы поўнага Евангелля "Жывое Слова".

Падчас набажэнства біскуп Аляксандр Кашкевіч у сваім слове прыгадаў дэвіз сёлетняга Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян, якім з'яўляюцца словы з Евангелля паводле св. Мацвея: "Мы бачылі зорку Ягоную на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму" (Мц 2, 2). "Будзем прасіць Пана, каб мы, будучы Яго вернымі і руплівымі вызнаўцамі, станавіліся для іншых людзей святлом, якое вядзе да Хрыста. Будзем шчыра шкадаваць і ў пакоры сэрца перапрашаць Пана за тое, што падзелы паміж намі, хрысціянамі, азмрочваюць ззянне гэтага святла", – заахвоціў біскуп усіх прысутных.

Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян з'яўляецца часам ласкі, бо заклікае ўсвядоміць грэх падзелу, які раз'ядноўвае вызнаўцаў Хрыста, а таксама адчуць патрэбу малітвы і намагання, каб супольна пераадолець падзелы і разам вызнаваць веру ў Збаўцу.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ІСПАНІЯ.** Касцёл прызнаў, што амаль 1 000 аб'ектаў нерухомасці ў краіне былі заняты ім без доказу таго, што яны па праву яму належалі. Прадстаўнікі Касцёла адзначылі, што цяпер пачнецца працэс "рэгулявання" маёмасці, у выніку чаго яна перайдзе ў рукі дзяржавы. Дэталі прысвяення былі прадстаўлены ў сумеснай заяве Канферэнцыі біскупаў Іспаніі і ўрадавага боку.

**ПОЛЬШЧА.** Кармэліткі босыя знаходзяцца ў краіне ўжо 410 гадоў. Цяпер сёстры з Закапанэ плануюць пабудаваць новы кляштар, гасцявы дом і пустэльню ў Строжы. Зараз у закапанскім кляштары налічваецца 14 сясцёр. Супольнасць рыхтуе праект будаўніцтва новага кляштара: "Просячы дапамогі ў св. Юзафа, мы знайшлі зямлю ў прыгожай вёсцы Строжа, недалёка ад Добрай, і там жадаем працягнуць сваё пакліканне. У Бескідзе Высповым мы хочам стварыць прытулак для ўсіх, хто шукае сэнсу, прыгажосці, праўды і супакою ў цесных адносінах з Богам на малітве. Таму, акрамя кляштара, плануем пабудаваць гасцявы дом і пустэльню, дзе наведвальнікі змогуць правесці некалькі дзён пры нашай супольнасці, молячыся разам з намі ў капліцы".

**ІНДЫЯ.** Быў апублікаваны даклад пра ганенні на хрысціян у краіне. За апошнія 9 месяцаў тут адбылося каля 300 нападаў на хрысціянскія меншасці. Індуісцкія радыкальныя групоўкі асабліва падбухторвае нацыяналістычная партыя дзейнага прэм'ер-міністра Нарэндры Модзі. Біскуп Освальд Льюіс з Джайпура звярнуў увагу на тое, што Індыя – гэта краіна, дзе паважаюць усе рэлігіі, паслядоўнікі якіх стагоддзямі жылі разам у згодзе і міры. Аднак у апошнія гады меншасці, асабліва хрысціяне і мусульмане, сталі аб'ектам нападаў з боку радыкалаў, якія імкнуцца дэстабілізаваць краіну.

**ІТАЛІЯ.** Італьянскія каталіцкія ўрачы ў рашучым закліку супраць эўтаназіі, якая практыкуецца ў краіне, падкрэсліваюць: "Не будзем забіваць! Нялюдскія дзеянні нельга блытаць з міласэрнасцю". У сваім маніфесце яны пішуць, што замест таго, каб выбіраць паміж жыццём больш ці менш вартым пражывання, трэба ўмацоўваць сістэму паліятыўнай дапамогі і ахінуць падтрымкай сем'і, дзе часта не спраўляюцца з доглядам за хворымі і дзе самі хворыя адчуваюць сябе цяжарам для грамадства.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# СВЯТЫ ВАЛЯНЦІН І СІМВАЛІЗМ ДНЯ ЗАКАХАНЫХ

*Кажуць, што любоў сляпая.*
*Верце мне, гэта абсалютная хлусня:*
*няма нічога больш відушчага,*
*чым сапраўднае каханне.*

*Энтані дэ Мело*

*Кацярына Паўлоўская*

Дзень св. Валянціна, Дзень закаханых. Хтосьці святкуе, купляе падарункі для каханай асобы, радуе яе, хтосьці не звяртае ўвагі на гэтае свята, хтосьці крытыкуе камерцыю вакол 14 лютага, бо калі сапраўды кахаеш, то, каб парадаваць блізкага чалавека, нагода не патрэбна.

Дадатак "святы" гаворыць аб шанаванні постаці Валянціна ў хрысціянстве. Сярод тых, хто нейкім чынам адзначае дадзены дзень, напэўна, не толькі веруючыя людзі. У гэтым ёсць асаблівая прыгажосць, якая пераклікаецца таксама з пачаткамі Дня закаханых.

Ёсць некалькі версій, як і некалькі св. Валянцінаў. Адна з іх гаворыць, што Дзень закаханых пачалі святкаваць у Рымскай імперыі 15 лютага ў гонар бога пладавітасці. Напярэдадні гэтага праходзіла латарэя, падчас якой хлопцы выцягвалі імёны дзяўчат. Так ствараліся пары, якія былі разам цягам наступнага дня, але маглі застацца ў рамантычных адносінах і пасля, нават на ўсё жыццё.

У 496 годзе, калі хрысціянства ўжо нейкі час было галоўнай рэлігіяй у Рымскай імперыі, папа Гелазій I устанавіў 14 лютага ўспамінам св. Валянціна. Ён быў святаром, які дапамагаў парам патаемна браць шлюб. Адкрыта нельга было гэтага рабіць з-за загаду цэзара, які лічыў, што жаўнеры не хочуць ісці ў войска, бо маюць нарачоных і жонак, а не праз непатрэбныя войны, якія вяла Рымская імперыя. Пасля раскрыцця Валянціна, яго прыгаварылі да смерці. Загінуў ён менавіта 14 лютага 269 альбо 270 года. На месцы яго магілы пабудавалі базіліку, якая, аднак, не захавалася. Рэшткі святога папа Пасхалій I (817–824) перанёс у касцёл св. Пракседы ў Рыме.

Таксама можна пачуць гісторыю біскупа Валянціна, які служыў у Тэрні (Італія). Лічыцца, што ён быў першым, хто благаславіў шлюб паміж язычнікам і хрысціянкай, а яшчэ, што сваім вернікам дасылаў лісты аб любові да Хрыста і што аздараўляў хворых, прыводзячы іх да веры. Забілі яго ў Рыме ў 273 годзе, таму што не пераставаў навяртаць язычнікаў. Яго парэшткі знаходзяцца ў святыні ў Тэрні. Надпіс на рэлікварыі ж гучыць так: "Святы Валянцін, заступнік любові".

Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў пералічаных выпадках гаворка ідзе аб адной і той жа асобе Валянціна. Як бы там ні было, актыўна святкаваць 14 лютага пачалі ў сярэднявеччы – у перыяд, калі было папулярна цікавіцца жыццём святых. Не абышлі ўвагай і св. Валянціна. Патронам закаханых ён быў абвешчаны ў 1496 годзе папам Аляксандрам VI.

Найбольш распаўсюдзілася свята ў Англіі і Францыі. Падчас адзначэння таксама праводзілася латарэя. Імёны ўжо цягнулі не толькі хлопцы, але і дзяўчаты. У Валіі ў гэты дзень можна было атрымаць драўляную лыжку з разьбой у выглядзе сэрца і ключоў з дзіркамі ад іх, што азначала: "Адкрый маё сэрца".

У Тэрні штогод адбываецца свята заручын. У нядзелю непасрэдна перад 14 лютага ў катэдру да рэліквій святога з'язджаюцца пары з усяго свету і абяцаюць адзін аднаму каханне і вернасць да дня шлюбу.

У Беларусі таксама існуе парафія св. Валянціна. Адзіны касцёл пад яго тытулам і з яго рэліквіямі знаходзіцца ў мястэчку Смалявічы Мінскай вобласці. Апекуюцца ім браты капуцыны меншыя. Штогод там таксама праходзіць урачыстае святкаванне з нагоды ўспаміну св. Валянціна.

Рэліквіі святога знаходзяцца у розных месцах свету. У гэтым, як і ў амаль сусветным характары свята закаханых можна ўбачыць прыгожы сімвалізм. Сімвалізм, які гаворыць аб тым, што менавіта такімі павінны быць любоў і каханне – яднаючымі. Яднаючымі, як Той, хто "мужчынам і жанчынай стварыў іх" (Быц 1, 27). На самым пачатку, у Раі, былі ён і яна, якія пачулі ад Бога: "Будзьце плоднымі і размнажайцеся, напаўняйце зямлю і валодайце ёю" (Быц 1, 28). Іншымі словамі, любіце адзін аднаго і пазнавайце свет вакол вас. Няхай 14 лютага, Дзень закаханых, будзе добрай нагодай для гэтага, нягледзячы на камерцыялізацыю.




### МАЛІТВА ДА СВ. ВАЛЯНЦІНА

**Святы Валянцін, апякун закаханых. Ты, які, рызыкуючы жыццём, абвяшчаў евангельскае пасланне супакою, які праз мучаніцтва, прынятае з любоўю, перамог усе сілы абыякавасці, нянавісці і смерці, выслухай нашу малітву. Перад абліччам падзелаў у свеце дапамажы нам заўсёды любіць неэгаістычнай любоўю, каб сярод людзей мы былі вернымі сведкамі любові Бога. Няхай нас ажыўляюць любоў і давер, якія дазволяць пераадольваць жыццёвыя перашкоды. Просім цябе, заступайся за нас перад Богам, які з'яўляецца крыніцай любові і ўсёй прыгажосці і які жыве ды валадарыць на вякі вечныя. Амэн.**

# "МОЛАДЗЬ ШУКАЕ АДКАЗЫ І ЧАКАЕ ЯКАСНЫХ СУСТРЭЧ".

## ПРА НАШУ БУДУЧЫНЮ З НАСТАЯЦЕЛЕМ САЛЕЗІЯН У БЕЛАРУСІ

працяг са с. 1

*Размаўляў Арцём Ткачук*

***– Стартаваў ужо чацвёрты дзесятак ад моманту аднаўлення беларускіх касцёльных структур. Якія асноўныя дасягненні ў працы з моладдзю Касцёла Беларусі Вы б вылучылі? Што атрымалася?***

– Пытанне, канешне, вельмі актуальнае, асаблівым чынам для Касцёла ў Беларусі.

Варта ўсвядоміць спачатку, што мы размаўляем пра аднаўленне, адбудоўванне чагосьці, пра шуканне свайго, пра тое, што нішчылася на працягу больш чым сямі дзесяцігоддзяў! Падкрэсліваю гэта таму, што мы вельмі хутка паддаёмся спакусе параўноўваць сябе і вынікі сваёй працы з іншымі, не беручы, на жаль, пад увагу гістарычны кантэкст, і робім адпаведныя высновы, якія, паводле маёй думкі, не заўсёды аб'ектыўна адлюстроўваюць фактычны стан Касцёла. А гэта, у сваю чаргу, нічога не дадае да развіцця, але, наадварот, тармозіць працэс, можа астудзіць энтузіязм і прывесці да песімізму: маўляў, стараемся, але нічога не выходзіць.

Гледзячы з перспектывы сённяшняга дня, трэба сцвердзіць, што зроблена сапраўды вельмі шмат. Хацелася б выдзеліць добра наладжаную працу ў парафіях, такія акцыі як Дні моладзі і пілігрымкі, наладжаную сістэму катэхізацыі, шматлікія культурна-пазнавальныя, музычныя, спартыўныя і іншыя фестывалі для маладых людзей.

Я б дадаткова адзначыў – і лічу гэта вельмі важным, – што сёння ў Касцёле адчуваецца нарастаючая агульная свядомасць таго, што моладзь – гэта наша будучыня і што яна з'яўляецца кардынальна важнай часткай Касцёла, а таму праз гэта атрымлівае ў душпастырстве прывілеяванае месца.

***– Ці ёсць ініцыятывы, падыходы, якія добра працавалі ўвесь гэты час, але, на Ваш погляд, сёння ўжо патрабуюць перагляду?***

– Распачну з уласнага "агарода", а менавіта з нашых салезіянскіх араторыяў. Заўважаем, што араторый у той форме, у якой ён існаваў яшчэ, можа, 10 гадоў таму, сёння не мае ўжо такой вялікай эфектыўнасці ў душпастырстве. Не кажу, што араторый як спосаб душпастырства моладзі ўжо больш не працуе, але кажу пра яго актуальную форму, якая павінна быць, як і ўвесь Касцёл, "semper reformanda" – гэта значыць, нястомна гатовая да змен дзеля сваёй жа эфектыўнасці.

Таму сёння ўжо не хопіць проста паклікаць моладзь і чакаць, што да цябе прыйдуць, нельга прапанаваць штосьці сярэдняй якасці, спадзявацца, што дастаткова прадставіць месца для сустрэчы. Сучасная моладзь шукае салідных прапаноў, што датычыць зместу і пастаянства! З гэтым звязана таксама вельмі сур'ёзны выклік для душпастыраў моладзі і ўсяго Касцёла аб адпаведнай падрыхтоўцы і далейшай фармацыі тых, хто адказны за гэтыя прапановы, хто ў душпастырстве моладзі знаходзіцца "на лініі фронту".

***– Ці ўдаецца Касцёлу ў Беларусі неяк каардынаваць працу з моладдзю? На ўзроўні камісій пры ККББ ці іншых структур. Падаецца, што такая каардынацыя ў нейкай меры прысутнічае на дыяцэзіяльных узроўнях, у рамках кангрэгацый і супольнасцей, але не ў агульнабеларускім кантэксце. Наколькі гэта ўвогуле неабходна?***

– Не ведаю, ці магу ацэньваць каардынацыйную працу Касцёла ў душпастырстве моладзі ў Беларусі, бо я не ўваходжу ні ў якую працоўную групу на ўзгаданых узроўнях, аднак лічу каардынацыю любога душпастырста на ўсіх узроўнях жыццёва неабходнай для эфектыўнасці самога ж душпастырства. І гэта не толькі ў сектары працы з моладдзю.

Сёння востра стаіць пытанне аб стварэнні адзінай, добра апрацаванай канцэпцыі душпастырсва моладзі, у якой будуць ясна прапісаны мэты, крытэрыі і формы супрацоўніцтва, накіраваныя на актуалізацыю прапаноў, на стварэнне агульнай платформы для абмену досведам.

А па-другое, сёння трэба аб'ядноўвацца. Скончыўся час нездаровай рэалізацыі. Пандэмія ўнесла свае карэкціроўкі, прычым вельмі складаныя. Над іх актуалізацыяй мы ўжо ўчора павінны былі распачаць працу.

***– У адным з лістоў арцыбіскуп Кандрусевіч пісаў: "Гарманічнае супрацоўніцтва сям'і, парафіі і «нядзельнай школы» дасць станоўчы плён у фармацыі маладога пакалення". Мне падаецца, што першае з'яўляецца слабейшым звяном. Нярэдка моладзь прыходзіць у Касцёл нават насуперак прыкладу бацькоў. Што думаеце на гэты конт?***

– Калі казаць пра словы арцыбіскупа Тадэвуша, я цалкам з ім згодны. Праблема выхавання – гэта, на самой справе, не праблема моладзі, але дарослых, перадусім – сям'і. Загружаныя рознымі жыццёвымі клопатамі, мы не маем часу заняцца моладдзю і асэнсаваць яе пытанні. У выніку яна сама шукае адказы, якія не заўсёды можна прыняць з хрысціянскага пункту гледжання.

Падчас працы з маладымі людзьмі заўважаем, што агульначалавечы ўзровень для іх важнейшы, чым муштраванне рэлігійных норм. Маладосць з'яўляецца хоць эластычным матэрыялам, але вельмі далікатным. Бо, як пазней аказваецца, праблемы дарослага жыцця лёгка прабіваюць шар іх юнацкай веры, перагружанай лішкам рэлігійных эмоцый, і застаецца пустка ды расчараванне.



**Кс. Віктар Гайдукевіч SDB** – салезіянін, рэгіянальны настаяцель Таварыства св. Яна Боско ў Беларусі.

***– Наколькі змянілася моладзь за гэты час і як змяняецца сёння? Душпастыры кажуць, што моцна. Адзін святар сказаў: "Я пайшоў у семінарыю пасля школы, скончыў яе, прыйшоў на парафію, а моладзь ужо зусім іншая". Якія гэта змены? Ці можаце прывесці некалькі накірункаў у беларускім кантэксце?***

– Змянілася? Я б не выкарыстоўваў у дадзеным кантэксце дзеяслоў законначанага трывання, бо гэты працэс застанецца заўсёды адкрыты – моладзь змяняецца і будзе змяняцца пастаянна. Усё змяняецца вакол нас, вакол моладзі; змяняюцца магчымасці, чаканні, жаданні і праблемы маладых людзей. Нягледзячы на гэта сучасная моладзь мае патрэбу ў аўтарытэце. І лічу таксама вельмі важным тое, што моладзь патрабуе нашага часу, зацікаўленасці і якаснага ўдзелу ў сваім жыцці.

***– Ці паспявае Касцёл за гэтымі зменамі? Ці ўвогуле рэальна паспяваць? Сучасны тэмп падаецца вельмі інтэнсіўным.***

– Каб адказаць на гэтае пытанне, дастаткова паглядзець на наша ўласнае жыццё і сцвердзіць, што яго сучасны тэмп сапраўды вельмі і вельмі інтэнсіўны і што паспяваць за ім складана. Калі б мы за ўсім паспявалі, то Касцёл і грамадства былі б ідэальныя і ўсё рабілася б своечасова, але так не заўсёды бывае.

Гэта чарговы важны выклік для нашага Касцёла. Калі кажам, што моладзь – гэта наша будучыня, то ўсе сілы, намаганні і рэсурсы павінны быць выкарыстаны для таго, каб трымаць палец на пульсе: аналізаваць сітуацыю, планаваць і выпрацоўваць агульную канцэпцыю душпастырства моладзі.

***– У параўнанні з душпастырствам школьнай моладзі, душпастырствы студэнтаў нашмат больш сціплыя ў колькасным вымярэнні. Як Вы бачыце гэтую сітуацыю? У чым прычыны?***

– Гэта сапраўды так, калі глядзець на колькасць удзельнікаў душпастырстваў студэнтаў. Лічу, што гэта чарговы выклік для нашага Касцёла, бо ён закранае якасць прапаноў, якія моладзь знаходзіць у Касцёле, і ступень саліднай падрыхтоўкі душпастыраў. Моладзь ад нас чакае якасных сустрэч, высокіх і актуальных тэматык, шукае адказы на пытанні, з якімі сутыкаецца ў штодзённасці, а часам проста мае патрэбу ў прысутнасці духоўнай асобы.

З другога боку, мне здаецца, што часта катэхізацыя школьнай моладзі прыводзіць да валодання пэўнымі рэлігійнымі ведамі і пазнаннямі, а само практыкаванне веры не вядзе да глыбіні. Таму колькасць веруючых і практыкуючых сваю веру студэнтаў змяншаецца. У іх няма глыбіні веры, няма свядомасці, часам рэлігійнасць спыняецца на ўзроўні дзеянняў, жэстаў, завучаных малітваў.

Аднак пошук Бога і прага духоўнага, якую адчуваюць маладыя людзі, не знікае, таму некаторыя ўсё ж час ад часу вяртаюцца да супольнасці Касцёла. Ёсць маладыя людзі, якія працягваюць свой шлях духоўнага ўзрастання. Менавіта яны з'яўляюцца тым касцяком, які прыцягвае іншых сваім прыкладам.

***– Можа, падзеліцеся нейкімі салезіянскімі напрацоўкамі ў сферы "паспявання" за моладзевымі трэндамі, блогерамі, культурай, музыкай і інш.?***

– У гэтым годзе дэвіз Таварыства св. Яна Боско ўзяты ў св. Францішка Сальскага: "Рабіце ўсё з любові і нічога праз сілу". Дык вось, гэта і ёсць наша салезіянская "напрацоўка" на гэты год. Прапануем "харызму адведзінаў", каб выходзіць да маладзёнаў і прапаведаваць, не чакаючы, што яны да нас прыйдуць; уваходзіць у іх рэчаіснасць і месцы прабывання. Іншымі словамі – выходзіць на сустрэчу з сучаснымі маладымі людзьмі, незалежна ад таго, дзе яны і якія яны.

***– Шлях, які праходзяць цяпер супольнасці ў Еўропе, нярэдка пужае. Нават у Польшчы ўжо канстатуюць масавы сыход моладзі з Касцёла. Спраўджваецца г. зв. прароцтва папы Рацынгера пра звужэнне хрысціянства да маленькіх супольнасцей. З беларускага Касцёла моладзь таксама ўжо сыходзіць ці яшчэ не? Як глядзіце ў будучыню з гэтай перспектывы?***

– Сапраўды, такая тэндэнцыя заўважальная таксама і ў нас. Моладзь не тое што адыходзіць ад Касцёла, але яна ідзе на дыстанцыю. У 1990-2000-ых гадах можна было назіраць вялікі наплыў моладзі ў Касцёл, вялікае жаданне быць у ім, належаць да яго, адчуваўся вялікі духоўны голад. Сёння з'явілася вялікае мноства "замяняльнікаў" духоўнасці, і маладому чалавеку стала больш складана ў гэтым "плюралізме каштоўнасцей" выбіраць для сябе сапраўды добрае і карыснае.

Аднак ёсць і іншая тэндэнцыя, якая паказвае якраз сіметрычна іншую сітуацыю – калі малады чалавек, перакаштаваўшы "каштоўнасці" гэтага свету, адчувае глыбокі сум і голад па чымсьці звышнатуральным, тым, што не змяняецца. Адбываецца свайго роду, як я ўжо згадваў, ачышчэнне веры ад пэўнай эмацыянальнасці і пераход да сапраўднага разумення веры і жыцця ёю.

ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# КОГДА Я НАЧАЛА МОЛИТЬСЯ ПО-НАСТОЯЩЕМУ

Вероника Гузевич

Что такое молитва, я знала с детства. В моём понимании это всегда была просьба о чём-то нужном и важном к какому-то доброму волшебнику, живущему на небе. Мне нравился этот волшебник. Ведь для того, чтобы что-то от него получить, нужно всего лишь произнести непонятные слова на польском языке, смысл которых не осознавала не только я, но и бабушка с родителями. Почему-то они считали, что этот язык я должна понимать с рождения, при этом не уча меня ни одному слову. Никто не обращал внимания на то, что польский для четырёхлетнего ребёнка ничуть не понятнее, чем хинди или арамейский. Мне говорили о существовании какой-то высшей силы – называлась она "Бозенька". Меня водили в костёл, но ни разу не объясняли, зачем. А потом искренне удивлялись, почему я с такими истериками и ужасом ходила в это нудное место.

Настало время подготовки к первому Причастию. Мне нравилось туда ходить. Там говорили по-русски и наконец-то всё объяснили так, как это должно было быть. Два года обучения пролетели быстро, но дальше ходить на уроки религии я не стала: родители объяснили мне, что учёба в школе гораздо важнее. Да и в костёл мне больше ходить не хотелось. Формально я время от времени приступала к исповеди, но она была недействительна: раскаивалась я не по-настоящему.

Прошло ещё несколько лет. Я повзрослела. Конечно, веру свою я не практиковала. Единственное, что осталось от духовной жизни – привычка отговорить «пацеры» перед сном. Интуитивно я понимала, что с Богом можно и нужно разговаривать (так меня научили на религии), и иногда по вечерам рассказывала Ему, что не буду меняться, что так живут все. На самом деле я не молилась, а убеждала себя, что живу правильно. Так бы я и утонула в грехах, но у Бога на меня были другие планы.



В тот момент, когда я поняла, что живу как-то неправильно, Святой Дух послал мне несколько православных видеороликов о вере. Там говорилось о совершенно неочевидных мне вещах. Одно я поняла точно: я должна идти в костёл. Срочно. И самое главное – рассказать без утайки обо всём со мной происходящем на исповеди.

О, как удивительны дела Твои, Господи! Первый раз в жизни я пришла в костёл самостоятельно и попала на службу по-белорусски. Я понятия не имела о существовании служб на понятном для меня языке. Это было невероятное открытие! Но Святой Дух действовал дальше: послал мне молодого священника со светлым и чистым сердцем. Я ходила к нему на исповедь. Бог говорил мне через него много разных добрых наук. Но одно лишь слово изменило всю мою жизнь! Столько лет прошло, а оно до сих пор звучит в ушах, отражается в душе. На одной из исповедей этот священник, совершенно не задумываясь, обратился ко мне "сестрёнка". Казалось бы, ничего особенного, ведь все мы сёстры и братья во Христе, но я тогда этого ещё не осознавала. Ноги подкосились. Сестрёнка… Я, грешница, и ты, избранник Божий, между нами ничего общего, и тут… Сестрёнка. Я отошла от конфессионала и тут же пообещала себе, что сделаю всё возможное, чтобы стать его сестрёнкой. Только тогда я поняла, что Бог – это Отец!

Прошло уже пять лет. У меня очень близкие отношения с Богом. Я дышу Им. Я не понимаю, как жила без Него и как могла жить без св. Мессы и Причастия. Но по соседству с огромной любовью в моём сердце живёт и большая боль. Мне жаль, что я продолжаю Его обижать и причинять много страданий. Но надеюсь, что у меня ещё есть время, чтобы исправиться. Главное, теперь я знаю, что молитва – это не всегда просьба. Молитва – это очень часто «спасибо»!

# ПРАВЕР, ЦІ НЕ АБРАБАВАЛІ ЦЯБЕ!

Бажэна Панасевіч

Як быць, калі не разумееш, што рабіць? Калі пачуццё разгубленасці і страху накрывае з галавой? Адказ просты: ***"Прасіце, і будзе дадзена вам; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам. Бо кожны, хто просіць, атрымлівае; і хто шукае, знаходзіць; і хто стукае, таму будзе адчынена"*** *(Мц 7, 7–8)*.

Аднак Езус таксама пытаецца ў нас: ***"Ці верыце, што Я магу зрабіць гэта?"*** *(Мц 9, 28)*. Таму што ***"станецца вам паводле веры вашай"*** *(Мц 9, 29)*. Ці сапраўды Ты давяраеш Богу? Ці не заключаеш Яго ва ўласныя, ужо пабудаваныя схемы вырашэння сваіх надзённых пытанняў? Ці не абмяжоўваеш Бога нейкім уласным вобразам Яго?

***"Мае думкі – не вашыя думкі, ні вашыя шляхі – не Мае шляхі, кажа Гасподзь"*** *(Іс 55, 8)*. Таму вырашэнне цяжкіх пытанняў, увасабленне Тваіх запаветных жаданняў можа быць не такім, якім Ты ўяўляў сабе. Дазволь Богу быць іншым, дазволь Яму правесці Цябе праз невядомасць! Дазволь паказаць Табе Яго бязмежную любоў!

Адкінуўшы гонар, прыйдзі да Айца, як малое дзіця, з радасцю ў вачах, з любоўю і верай, працягні свае адкрытыя далоні і… папрасі. ***"Ці ёсць сярод вас чалавек, які, калі сын ягоны папросіць у яго хлеба, дасць яму камень? Або калі папросіць у яго рыбы, дасць яму змяю? Калі ж вы, будучы ліхімі, ведаеце, як даваць дзецям вашым добрыя дары, тым больш Айцец ваш, які ў нябёсах, дасць добрае тым, хто просіць у Яго"*** *(Мц 7, 9–11)*.

Для Бога няма неістотных праблем і дробязяў. Калі штосьці важнае для нас, то важнае і для Яго. Кожнае наша жаданне, імкненне да чагосьці – гэта свайго роду новы ўзровень, новы этап, а таксама і ўзяцце адказнасці за сваё жыццё. Гэта саленне.

Кожны з бацькоў хоча дапамагчы дзіцяці пазнаёміцца з гэтым цудоўным светам, у які ён прыйшоў, дапамагчы яму стаць сабой. І радуецца яго найменшым зробленым крокам насустрач новаму і нязведанаму. Узяць, да прыкладу, малога, які спрабуе забрацца на крэсла – для яго гэта вялікая гара. І мама, і тата сядзяць і пляскаюць у далоні маленькаму храбрацу, калі ён дасягае запаветнай вяршыні.

Наш Нябесны Айцец таксама глядзіць на нас, як мы ўзбіраемся на свае жыццёвыя "Эверэсты", і так жа падтрымлівае і верыць у нас! Радуецца, калі мы перамагаем. Бог заклікае нас жыць напоўніцу, жыць у дастатку: ***"Злодзей прыходзіць дзеля таго, каб красці, забіваць і нішчыць. Я прыйшоў, каб вы мелі жыццё і мелі ў дастатку"*** *(Ян 10, 10)*.


pixabay.com

Стан сумненняў, разгубленасці і страху з'яўляецца тады, калі прыходзіць "злодзей". Мы нараджаемся без гэтых пачуццяў. Мы поўныя энергіяй, жаданнямі, таму што Айцец нас задумаў такімі – якія імкнуцца да любові, да шчасця, да чагосьці больш высокага. "Злодзей" жа крадзе ісціну: аб Табе, аб людзях, аб свеце, аб Богу. І падкладае сваю хлусню! Прымушае паверыць у яе і трансліраваць ва ўласнае жыццё. А гэтая жудасная няпраўда распаўсюджваецца з неймавернай хуткасцю: "Я дрэнны!", "Няма ўжо для мяне выратавання і надзеі!", "У свеце няма добрых людзей!", "Бог не слухае мяне!" і г. д.

Гэта не думкі сапраўднага хрысціяніна, і вельмі важна прывесці сваё мысленне ў адпаведнасць з Божым. ***"Чыстае сэрца ўмацуй ува мне, Божа, і дух справядлівы аднаві ўва мне"*** *(Пс 50, 12)*.

Гэта значыць, неабходна звяраць з Бібліяй свае думкі: шукаць і разважаць, што пра гэта гаворыць наш Айцец. І трансліраваць пачутую ісціну ў сваё жыццё! Сэрца, пакрытае пластом бруду, магчыма, толькі з тысячнага разу прыме праўду. Але гэта не нагода здавацца, Сябар, бо ёсць добрая навіна: ***"Калі Бог за нас, хто супраць нас?"*** *(Рым 8, 31)*.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Ці можна ўдзяліць хрост без святара?

grodnensis.by

*Сапраўды, у жыцці чалавека бываюць такія моманты, калі трэба неадкладна дзейнічаць. Гэта таксама тычыцца і ўдзялення сакраманту хросту. Кодэкс Кананічнага Права і Парадак хросту дзяцей, дастасаваны для дыяцэзій Беларусі рэгулююць такія пытанні.*

*Калі дзіцяці пагражае небяспека смерці, яго неадкладна трэба хрысціць (ККП, кан. 867, §2). Гэта дазваляецца рабіць нават без згоды бацькоў і ў тым выпадку, калі бацькі не маўляці не католікі. У іншых выпадках прынамсі адзін з бацькоў павінен даць згоду на хрост.*

*У выпадку небяспекі для жыцця, а асабліва пры каманні, калі няма святара ці дыякана, хрост можа, а часам і павінен удзяліць кожны вернік ці нават любы чалавек, кіруючыся належным намерам (інтэнцыяй). Калі ж небяспека смерці з'яўляецца пасрэднай, то сакрамант удзяляецца, наколькі гэта магчыма, вернікам і паводле карацейшага парадку ("Парадак хросту дзяцей. Уводзіны", 21.2)*

*У сітуацыі неабходнасці, калі немагчыма выкарыстаць асвечаную ваду, трэба падрыхтаваць натуральную і чыстую ваду (неасвечаную). Форму хросту даў сам Езус Хрыстус: "Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога" (Мц 28, 19).*

*Словы, якімі ў лацінскім Касцёле ўдзяляецца хрост, наступныя: N. (імя), Я ЦЯБЕ ХРЫШЧУ Ў ІМЯ АЙЦА І СЫНА, І ДУХА СВЯТОГА (цэлебрант тройчы палівае вадой дзіця). Калі немаўля ачуняе і знікне пагроза смерці, трэба прынесці яго ў касцёл, каб святар здзейсніў дапаўняльныя абрады.*

*Згодна з Кодэксам кананічнага права (кан. 856), хрост можа ўдзяляцца ў любы дзень, аднак рэкамендуецца, каб у звычайным парадку ён удзяляўся ў нядзелю або, па магчымасці, у Пасхальную вігілію, каб паказаць пасхальную сутнасць хросту. У перыяд Адвэнту ці Вялікага посту не забаронена ўдзяляць сакрамант хросту, аднак з захаваннем "духу" канкрэтнага перыяду (без гучных забаў і застолляў з алкаголем), памятаючы, што, напрыклад, Вялікі пост мае пакаянны характар.*

*Лепш за ўсё будзе прыйсці да пробашча парафіі і паразмаўляць пра хрост свайго дзіцяці.*

# ШЫЛАВІЧЫ. СВЯТЫНЯ, ЯКАЯ СЯГАЕ НЯБЁС

працяг са с. 1

Андрэй Вашкевіч

Шылавічы ляжаць здалёк ад загружаных транспартам міжгародніх трас. Але мясцовы касцёл усё роўна бачаць вельмі многія, бо цудоўная гатычная званіца святыні мае вышыню больш за 60 метраў. У пачатку 1913 года газета Віленскай дыяцэзіі пісала, што калі ў кастрычніку 1912 года з святыні прыбралі будаўнічае рыштаванне, немагчыма было адвесці погляд ад прыгожых ліній новага касцёла. Газета называла касцёл Святой Тройцы ў Шылавічах самым прыгожым у Ваўкавыскім павеце і самым вялікім ва ўсёй дыяцэзіі. Цудоўна, што, нягледзячы на ўсе войны і катастрофы XX стагоддзя, святыня ацалела да нашых дзён.

Парафія з касцёлам Святой Тройцы існавала ў Шылавічах як мінімум з самага пачатку XVI стагоддзя. Вёскай валодалі Шылы, Крупскія, Свірскія, Вольскія, і ўсе яны клапаціліся пра парафію, забяспечваючы яе зямлёй, фундушамі і час ад часу рамантуючы драўляныя касцёлы ці ўзводзячы новыя. Так ужо ў 1600 годзе парафія атрымала пляц для будаўніцтва школы. Плябан павінен быў сачыць за яе функцыянаваннем, наймаючы і аплачваючы настаўнікаў. Тады ж, у пачатку XVII стагоддзя, быў пабудаваны чарговы драўляны касцёл, які прастаяў больш за 300 гадоў і быў разабраны толькі ў 1926 годзе.

Некаторы час Шылавічамі валодала сям'я Веялоўскіх, пра якіх мы ўжо пісалі, расказваючы пра гісторыю касцёла ў Крамяніцы. Крыштаф Весялоўскі даслужыўся да маршалка Вялікага Княства Літоўскага, браў удзел у шматлікіх войнах, вылучаўся вялікай рэлігійнасцю і пабудаваў касцёлы ў Ходараве, Лунне, Квасоўцы і Завадах. Разам з жонкай Аляксандрай, цёткай будучага караля Яна Сабескага, заклаў кляштар брыгітак у Гродне. Менавіта брыгіткі былі патронкамі касцёла ў Шылавічах амаль 200 гадоў, ажно да канфіскацыі маёмасці кляштара царскімі ўладамі ў 1842 годзе.

Стары шылавіцкі касцёл спраўна служыў людзям



А. Вашкевіч

Знешні выгляд парафіяльнага касцёла

амаль тры стагоддзі, але бліжэй да 1900 года амаль цалкам спарахнеў. Багатая Шылавіцкая парафія ў той час налічвала больш за 5000 парафіян, адных толькі хростаў цягам года адбывалася каля двухсот. Патрэбна была новая святыня, і за справу яе будаўніцтва ўзяўся кс. Казімірас Станіёніс, трыццацігадовы вельмі актыўны і аўтарытэтны ў дэканаце чалавек.

Царскія ўлады паставіліся да просьбы аб будаўніцтве новага касцёла з падазрэннем і ўзгаднялі не ажно два гады. Дакладна правяралася, ці не можа будаўніцтва новага касцёла "адмоўна паўплываць" на праваслаўнае насельніцва, і ці не звязана месца будаўніцтва з памяцю пра падзеі паўстання 1863 года. Будоўля пачалася ў 1905 годзе. Кіраўніком будаўнічага камітэта стаў кс. Станіёніс, кожная сям'я з парафіі павінна была выдзеліць на будоўлю 10 рублёў, а ўсяго касцёл мусіў каштаваць больш за 26 тысяч рублёў. У той час, калі цягавіты сялянскі конь каштаваў каля 70 рублёў, такая сума здавалася проста велізарнай.

Праз сем гадоў неагатычны касцёл, узведзены па праекце архітэктара Вільгельма Срокі, быў скончаны. Але радаваў ён парафіян нядоўга. У 1915 годзе расійскія салдаты зрабілі на званіцы назіральны пункт і яе абстраляла нямецкая артылерыя. Дах вежы з крыжам упаў уніз, быў прабіты дах самога касцёла, разбіўся алтар, рассыпаліся новыя прыгожыя вітражы... Адбудова касцёла працягвалася амаль усе 1920-я гады. Толькі ў 1928 годзе касцёл атрымаў новыя званы ўзамен тых, якія былі вывезены ці то расійскімі, ці то нямецкімі войскамі яшчэ ў гады I Сусветнай вайны. Кс. Казімірас Станіёніс, аслаблены хваробай і перажываннямі за лёс самай важнай справы свайго жыцця, памёр у кастрычніку 1925 года і быў пахаваны каля касцёла.

У савецкі час у зачыненым касцёле функцыянавала зернесховішча, склад цэменту і будаўнічых матэрыялаў, майстэрня па рамонце сельскагаспадарчай тэхнікі. Святыню вярнулі ў 1989 годзе, і адразу пачалася яе рэстаўрацыя. Пад кіраўніцтвам пробашча парафіі кс. Мар'яна Хамені былі адбудаваны дах святыні, новая плябанія, агароджа касцёла, пашыраны парафіяльныя могілкі. Сёння касцёл у Шылавічах – маленькай вёсачцы недалёка ад Ваўкавыска – гэта не толькі шэдэўр архітэктуры пачатку XX стагоддзя, але і важны цэнтр духоўнага жыцця Гродзеншчыны.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***6 лютага – V Звычайная нядзеля***
***Лк 5, 1–11***

Натоўп ціснуўся да Езуса, каб слухаць слова Божае, а Ён стаяў каля возера Генэзарэт. І ўбачыў Ён два чаўны, якія стаялі каля возера, а рыбакі выйшлі з іх і паласкалі сеткі. Увайшоўшы ў адзін з чаўноў, які належаў Сымону, папрасіў яго крыху адплысці ад берага. Тады Ён сеў і вучыў людзей з чаўна. А калі скончыў гаварыць, сказаў Сымону: "Плыві на глыбіню, а вы закіньце сеткі вашыя для ўлову". Сымон сказаў Яму ў адказ: "Настаўнік, мы працавалі ўсю ноч і нічога не злавілі, але на Тваё слова закіну сеткі". Зрабіўшы так, яны злавілі вялікае мноства рыбы, аж пачыналі рвацца іхнія сеткі. Іківалі супольнікам, якія былі ў другім чаўне, каб прыйшлі дапамагчы ім. Тыя прыйшлі і напоўнілі абодва чаўны, так што яны пачалі тануць. Калі гэта ўбачыў Сымон Пётр, прыпаў да каленяў Езуса і сказаў: "Адыдзі ад мяне, Пане, бо я чалавек грэшны". Бо з-за ўлову рыбы, якую злавілі, вялікае здзіўленне ахапіла яго і ўсіх, хто быў з Ім, а таксама Якуба і Яна, сыноў Зэбэдэя, якія былі супольнікамі Сымона. Тады сказаў Езус Сымону: "Не бойся, адгэтуль будзеш лавіць людзей". А калі выцягнулі чаўны на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі за Ім.

### Сустракаць мудрых людзей

*Мудрасць Пятра заключалася ў тым, што ён давeрыўся Езусу. Ён разумеў, што нельга ўпарта карыстацца ўласнымі мерамі ў жыцці. Трэба ўлічваць мудрасць іншых і вучыцца ёй. Гэта каштоўны шлях удасканальвання мудрасці. Той, хто ўпарты і слепа стаіць на сваім, робіць памылкі.*

*Разуменне людзей, мудрэйшых за нас, – адна з каштоўных прыкмет духа. Той, хто заўважае іх, здольны кожны дзень удасканальваць сваю мудрасць. Сустрэча з Езусам – такая падзея, якая ўплывае на гэты працэс. Патрэбны давер, патрэбна пакора, якая можа аб'ектыўна сябе вымяраць і будзе адкрыта для сустрэчы з людзьмі, мудрэйшымі за нас. Прыгожа гэта выказаў Пётр: "Адыдзі ад мяне, Пане, бо я чалавек грэшны". На што Настаўнік адказаў: "Адгэтуль будзеш лавіць людзей".*

*Пётр атрымлівае новае пакліканне, ён павінен клапаціцца аб збаўленні людзей. Мудрасць выпраменьваецца ва ўзаемных кантактах паміж мудрымі людзьмі. Яна засвяцілася ў сэрцы Пятра на лодцы, напоўненай рыбай.*

*Давайце дзякаваць мудрым людзям, якіх мы сустрэлі і сустракаем у сваім жыцці. Хай наша мудрасць расце, каб і іншыя былі ўдзячныя за тое, што сустрэлі нас на сваім шляху.*

*Пане Езу Хрысце, дзякую Табе за кожнага мудрага чалавека, якога Ты ставіш на дарозе майго жыцця!*

***13 лютага – VI Звычайная нядзеля***
***Лк 6, 17. 20–26***

Езус сышоў з Дванаццаццю ўніз і стаў на раўніне. І быў там вялікі натоўп вучняў Ягоных і вялікае мноства людзей з Юдэі і Ерусаліма, з узбярэжных ваколіц Тыра і Сідона. Тады Ён узняў вочы свае на вучняў сваіх і сказаў: "Шчаслівыя ўбогія духам, бо ваша ёсць Валадарства Божае. Шчаслівыя, якія цяпер галадаеце, бо насычаны будзеце. Шчаслівыя, якія цяпер плачаце, бо смяяцца будзеце. Шчаслівыя вы, калі ўзненавідзяць вас людзі, і калі адрынуць вас, і будуць зневажаць, і з-за Сына Чалавечага адкінуць імя вашае, як зло. Радуйцеся ў той дзень і весяліцеся, бо вялікая ўзнагарода ваша ў небе. Бо так паступалі з прарокамі айцы іхнія. Але гора вам, багатыя, бо вы ўжо атрымалі сваё суцяшэнне. Гора вам, якія цяпер сытыя, бо галадаць будзеце. Гора вам, якія цяпер смяецеся, бо смуткаваць і плакаць будзеце. Гора вам, калі ўсе людзі будуць добра казаць пра вас, бо так паступалі з фальшывымі прарокамі айцы іхнія".

### Быць годным называцца шчаслівымі

*Настаўнік з Назарэта паказвае дзве рэальнасці: добрую і кепскую, светлую і цёмную. Ён бласлаўляе тых, хто бедны, галодны, хто ў роспачы, каго праследуюць. Ён таксама прамаўляе пагрозлівае "гора" тым, хто багаты, сыты, шчаслівы, кім захапляюцца.*

*У святле гэтых слоў трэба ўглядзецца ў наша хрысціянства, бо і нам, вучням Хрыста, няпроста выконваць указанні Настаўніка. Мы жадаем лепш быць багатымі, насычанымі, радасна і без стрэсу жыць у славе тут, на зямлі. І забываемся, што павінны добраахвотна не прывязвацца да багацця, не дагаджаць сваім пачуццям і людской ганарыстасці.*

*Мы таксама павінны быць гатовымі дзеля Езуса і Яго Евангелля на любое прыніжэнне, нягоды і нават здзекі. Калі мы, як Пан Езус, будзем клапаціцца пра ўзрастанне Валадарства Божага ў нас саміх і ў нашых сем'ях, калі, як Ён, прысвецім сваё жыццё Евангеллю, тады атрымаем бясконцую ўзнагароду, таму што "чаго вока не бачыла, і вуха не чула, і не спазнала сэрца чалавека, тое Бог падрыхтаваў тым, хто любіць Яго" (1 Кар 2, 9).*

*Гэтая ўзнагарода чакае, але там, на небе, а не тут, на зямлі. Таму, калі мы тут хочам хвалы, гонару, насычэння, багацця, пыхі, то не можам быць вучнямі Езуса з Назарэта, таму што Ён быў іншым! Ён быў пакорны, пасціўся, не шукаў грошай, не сваёй славы хацеў, але Айца, які ў нябёсах.*

*Пане Езу Хрысце, дапамажы мне ў рэалізацыі нялёгкага мастацтва жыцця Евангеллем, каб я ступіў на дарогу Тваіх бласлаўленняў!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды чарговай гадавіны біскупскай сакры перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Езус, Найсвяцейшая Маці і Святы Дух апекуюцца Вамі, дадаюць сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, усмешка заўсёды будзе на твары, побач знаходзяцца добрыя людзі, а кожны дзень паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ГЕДРОЙЦЮ**

*з нагоды імянін і 50-годдзя з дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем, каб праз Божую ласку Вы ніколі не ведалі стомы. Няхай Пан адорыць Вас моцным здароўем, нязгаснай энергіяй і неабдымнай дасканаласцю ў святарскім абавязку. Няхай дары Святога Духа, нястомная апека і любоў Найсвяцейшай Маці будуць для Вас жыватворнай крыніцай на кожную хвіліну жыцця.*

*Вернікі парафіі Галынка*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДЖЭЮ ШЧУПАЛУ**

*з нагоды імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, моцнага здароўя на яшчэ доўгія гады жыцця, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святы заступнік падтрымлівае Вас сваім прыкладам і заўсёды дапамагае пераадольваць усе цяжкасці. Шчыра дзякуем за святарскую паслугу ды адданасць Богу і людзям.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Новай Руды*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВАЛЯНЦІНУ ХВЕДУКУ**

*з нагоды імянін перасылаем самыя цёплыя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай працы. Жадаем, каб на твары заўсёды ззяла ўсмешка, вочы блішчалі ад радасці, а сэрца моцна білася ад той любові, якая ў ім жыве.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беліцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем шмат усмешак, ад якіх робіцца цёпла на душы, больш выдатных людзей, якія не дадуць Вам сумаваць (бо чым больш усмешак, тым больш цяпла), а таксама яркіх дзён, якія будуць напоўнены станоўчымі эмоцыямі і шчасцем!*

*Вернікі з вёсак Казярнікі і Паніжаны парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Жодзішках*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДЖЭЮ ШЧУПАЛУ**

*з нагоды дня нараджэння і імянін складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай добры Бог памнажыць Вашу веру і блаславіць, Святы Дух шчодра адорыць мудрасцю, Маці Божая ахіне няспыннай апекай і мацярынскай любоўю, а святы заступнік спадарожнічае ва ўсіх жыццёвых справах. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, цярпеннем і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям, а кожны дар, які атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.*

*Сям'я Заяц*

**ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ ЛЮДМІЛЕ**

*з нагоды 25-ай гадавіны абрання манаскай дарогі перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены Божым блаславеннем, радасцю і супакоем, а дабрыня і зычлівасць, якія Вы дорыце людзям, няхай заўсёды да Вас вяртаюцца. Надалей заставайцеся для нас прыкладам моцнай веры і набожнасці. Шчасці Божа!*

*Парафіяне касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДЖЭЮ ШЧУПАЛУ**

*з нагоды дня нараджэння і імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці і ўсмешкі. Няхай вера стане яшчэ больш моцнай, а абвяшчаемае Божае слова яшчэ глыбей пранікае ў сэрцы вернікаў. Няхай Пан Езус блаславіць, а Святы Дух спадарожнічае ў кожную хвіліну жыцця. Жадаем Вам толькі сонечных дзён у служэбе Богу і людзям.*

*Студэнты і выпускнікі Тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра ў Гродне*

**ДАРАГОМУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння сардэчна жадаем натхнення Святога Духа на кожны дзень душпастырскай паслугі і апекі Маці Божай. Няхай кожны дар, які атрымліваеш ад Усявышняга, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.*

*Мама і тата*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем:*
*Светлых ранкаў, яснага сонца,*
*Божай любові і ласкі бясконцай,*
*Шчодрасці плёнаў, неба блакіту,*
*Міністрантаў паслухмяных з душою адкрытай!*
*Хай плённаю будзе Ваша дарога.*
*Моцы і сілы ад Духа Святога.*
*Радасць быцця мець у кожным імгненні,*
*Шчасця, здароўя. З днём нараджэння!*

*Літургічная служба алтара парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ВЕЛІВІСУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаем шчырыя віншаванні. Жадаем шмат сіл, нязгаснага запалу ў служэбе Богу і людзям, шчодрых ласкаў ад Усемагутнага, апекі Найсвяцейшай Маці і моцнага здароўя на доўгія гады жыцця.*

*Парафіяне з Грандзічаў і Путрышак*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЗДЗІСЛАВУ ПІКУЛУ І ЎСІМ ЯГО РОДНЫМ**

выказваем словы шчырага жалю і спачування ў сувязі са смерцю самага блізкага і дарагога чалавека – мамы Станіславы. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дасць Вам моц і надзею, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека. Вечны супакой для памерлай!

*З павагай і малітвай Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Моладзь мінскай катэдральнай парафіі наведала сваіх праваслаўных аднагодкаў з прыхода Усіх Святых у Мінску. Сустрэча дзвюх моладзевых супольнасцей адбылася ў сценах храма-помніка, дзе каталіцкая моладзь мела магчымасць наведаць крыпту і пастаянную экспазіцыю "Музей памяці". Маладыя людзі задавалі адзін аднаму пытанні, якія іх цікавілі, адносна каталіцкіх і праваслаўных традыцый, літургіі і звычаяў, размаўлялі пра тое, што аб'ядноўвае хрысціян Усходу і Захаду; параўноўвалі, у чым яны падобныя і што іх адрозніване.

Заключным момантам сустрэчы стала знаёмства і размова з ключаром храма Усіх Святых протаіерэем Фёдарам Поўным. Святар распавёў удзельнікам сустрэчы гісторыю свайго паклікання, а таксама пра ідэю стварэння храма-помніка. Ён звярнуў асаблівую ўвагу на значэнне Божага слова ў жыцці маладога верніка.




**рэлігійны часопіс**

Сястра Аўгустына Дакуцька родам з Лагойска. Апошнія чатыры гады манахіня дамініканка працуе ў Благавешчанску – горадзе на беразе ракі Амур, на якой праходзіць мяжа Расіі з Кітаем. Насупраць Благавешчанска размешчаны кітайскі горад Хэйхэ. Нягледзячы на тое, што ад кляштара сясцёр да мяжы можна дайсці за дзесяць хвілін, у Хэйхэ сёстрам яшчэ не ўдалося пабываць, паколькі знаходзіцца там у манаскім адзенні небяспечна, між іншым, па прычыне пераследу хрысціян. Парафію сясцёр дамініканак кітайскія вернікі наведваюць не так часта. Аднойчы ў іх гасціла пяць святароў з Кітая.

Са слоў сястры, у Расіі шмат праваслаўных, але гэта хутчэй проста ахрышчаныя людзі, чым вернікі. У краіне шмат яшчэ і тых, хто з верай увогуле не мае нічога агульнага. У такіх абставінах вернікам іх парафіі патрэбна мужнасць, каб жыць паводле Хрыста.




**беларуская рэдакцыя**

Камісія Біскупскіх Канферэнцый Еўрапейскай Супольнасці заявіла аб жаданні супрацоўніцтва з новай старшынёй Еўрапарламента – 43-гадовай мальтыйкай Рабэртай Мэтсола.

Мэтсола, жонка і маці чацвярых дзяцей, – самая маладая галава Еўрапарламента ў гісторыі і трэцяя жанчына на гэтай пасадзе. У 2020 годзе яна была віцэ-старшынёй Еўрапарламента і каардынатарам яго дыялогу з Касцёламі, рэлігіямі і неканфесійнымі арганізацыямі. Новаабраная старшыня Еўрапарламента падчас сваіх папярэдніх выступленняў выказвалася ў падтрымку сямейнай палітыкі, якая, на яе думку, сфарміруе будучыню Еўропы. Падчас удзелу ў маі 2021 года ў экуменічнай малітве яна адзначыла важнасць удзелу Царквы ў канферэнцыі аб будучыні Еўропы. Чакаецца, што да вясны 2022 года Канферэнцыя сфармулюе высновы і кіруючыя прынцыпы для будучыні Еўропы.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Да Дня ратаўніка ў Дзятлаве ўрачыста адкрылі новы будынак, дзе размясціліся раённы аддзел МНС і пажарная аварыйна-выратавальная часць №1. У гэты дзень павіншаваць мясцовых жыхароў са знакавай падзеяй, а таксама падзякаваць ратаўнікам за службу прыбыло шмат гасцей. Да віншаванняў далучыліся прадстаўнікі духавенства – Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы, якія блаславілі новы будынак, дзе будуць працаваць ратаўнікі чалавечых жыццяў. Каталіцкі Касцёл на мерапрыемстве прадставіў пробашч дзятлаўскай парафіі кс. Здзіслаў Пікула SDB.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня",** 224013 Брэст, праспр. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.